**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 21 (737) 22 траўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## Выручка ад рэалізацыі на аднаго сярэдняспіскавага работніка арганізацый Беларусі за студзень-сакавік у доларавым эквіваленце знізілася на 1,9%

**Выручка ад рэалізацыі на аднаго сярэдняспіскавага работніка арганізацый Беларусі за студзень-сакавік 2014 года склала 147,8 млн. рублёў, што на 10,6% больш, чым за студзень-сакавік 2013 года.**

У доларавым выражэнні гэты паказчык роўны 15,2 тыс. (на 1,9% менш), паведамілі БелаПАН у Нацыянальным статыстычным камітэце.

За студзень-сакавік 2014 года выручка ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг арганізацый краіны ў наяўных цэнах склала 202,9 трлн. рублёў, або на 9,2% больш, чым за студзень-сакавік 2013 года. Сабекошт рэалізаванай прадукцыі, тавараў, работ, паслуг вырас на 11,2% да 263,6 трлн. рублёў.

Чысты прыбытак арганізацый Беларусі знізіўся на 27% у параўнанні са студзенем-сакавіком 2013 года і склаў прыблізна 9 трлн. рублёў. Прыбытак ад рэалізацыі вырас на 2,6% да 20,7 трлн. рублёў.

Удзельная вага стратных прамысловых прадпрыемстваў у гэты перыяд склала 17,8% супраць 11,3% у студзені-сакавіку 2013 года. Рэнтабельнасць продажу за студзень-сакавік 2014 год была на ўзроўні 6,4% супраць 6,8% за аналагічны леташні перыяд.

*Марына Носава, БелаПАН.*

Віцебскі раён

# Кабаны нагадалі пра чуму

■ Чэслаў Якубовіч

**Летась многія беларусы нацярпеліся бед, калі асабліва ў Віцебскай вобласці выявіліся шэраг ачагоў страшнай інфекцыі – афрыканскай чумы свіней.**

Пра гэту заразу многія сталі гаварыць зноў, калі перад урачыстасцямі Вялікай Перамогі амаль у цэнтры Віцебска каля маста Блахіна быў выяўлены труп мёртвага дарослага дзіка. Аднак з прычыны працяглых выхадных ніхто не збіраўся яго прыбраць. Пазней адзін з незалежных журналістаў знайшоў у вадзе ў іншых кутках абласнога цэнтра яшчэ тры падобныя тушы. І толькі на чацвёрты дзень спецыялісты на баржы з кацерам правялі рэйд па Дзвіне, знайшлі яшчэ аднаго пятага па ліку мёртвага дзікага кабана. З захаваннем усіх неабходных мер перасцярогі потым усе трупы жывёл былі захаваны ў спецыяльным месцы за горадам. У дзікоў былі ўзяты пробы для правядзення аналізаў, і галоўны санітарны ўрач вобласці Аляксандр Козак паспяшыў супакоіць грамадскасць, што віруса АЧС у гэтых дзікоў не было выяўлена. Па меркаванні эпідэміёлагаў, прычынай іх гібелі магло стаць проста ўтапленне на адным з імклівых участкаў ракі. Аднак, хоць магчыма гэта і так, расслабляцца насельніцтву не варта. Менавіта ў мінулым годзе пагалоўе свіней толькі ў гаспадарках вобласці скарацілася на 20 %, сур'ёзна пацярпелі 7 буйных свінакомплексаў.

На двух з іх, дакладна вядома, прыйшлося выразаць усіх свіней, хаваць іх у магільніках на вялікай глыбіні. У зонах адчуджэння паблізу свінакомплексаў паўсюдна ў рэгіёне пайшлі пад нож і свінні на панадворках насельніцтва. Там трымаць свінак людзям будзе нельга на працягу яшчэ некалькіх гадоў, калі чума не нагадае пра сябе зноў.

Пастаўскі раён

# Перарваны палёт

■ Кастусь Александровіч

**Айчынныя эканоміка, відавочна, цяпер перажывае вельмі складаны перыяд, бо і дзяржбюджэт трашчыць па швах.**

Вось і Дзяржпагранкамітэт Беларусі не ад добрага жыцця напрыканцы сакавіка выдаў загад аб ліквідацыі свайго Асобнага авіяатрада, які размяшчаўся ў Паставах. Да 3 чэрвеня будзе гэта воінская часць, адна з лепшых у пагранвойсках, поўнасцю расфарміраваная. Самае сумнае, што яшчэ паўгода назад у райцэнтры прайшлі ўрачыстасці з нагоды яе 20-годдзя і адзначалася, што авіятары ўзорна выконваюць ускладзеныя на іх задачы па ахове граніцы, паветранай разведкі, дэсанту і затрымання парушальнікаў дзяржмяжы. Ды і сталі лятаць пастаўскія авіятары на сучасных французскіх верталётах, у іх застаўся толькі адзін стары савецкі Мі-8. Усе службы часці дагэтуль пераасналіліся навейшым абсталяваннем, з'явіўся спецыяльны ангар для тэхнікі, служылі тут сапраўдныя асы, якія правілі сябе падчас баявых дзеянняў у Афганістане і ў іншых "гарачых кропках". І вось цяпер ранейшай пагранічнай часці – гордасці пагранведамства не будзе, адсюль звольнілі многіх вопытных пагранічнікаў і дзясяткі вольнанаёмных служачых, маладзейшых афіцэраў і прапаршчыкаў перавялі ў іншыя месцы службы. Праўда, толькі чацвёртая частка зладжанага калектыву ў горадзе застанецца. Аднак авіятары летам пачнуць служыць у іншым падраздзяленні, якое будзе ў падпарадкаванні ўжо Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі. А вось хто будзе выконваць ранейшыя задачы аператыўнай аховы беларускіх граніц з паветра, пакуль незразумела, бо МНС вырашае іншыя пытанні.

Глыбоцкі раён

# Ён жыў для людзей

■ Станіслаў Раманчук

**Справядліва лічыцца, што памерлы чалавек жыве датуль, пакуль пра яго памятаюць суайчыннікі.**

У Глыбоцкім раёне напрыканцы лета сёлета рыхтуюцца адзначыць 500-годдзе вёскі Мосар, якая набыла апошнім часам вядомасць па ўсёй краіне і за яе межамі дзякуючы ксяндзу-пралату Юзафу Бульку. З гэтай нагоды тут вырашылі ўвекавечыць памяць аб неардынарным чалавеку, стварыць спецыяльную экспазіцыю ў мясцовым музеі народнага побыту. У сталым узросце гэты літовец прыехаў сюды і за 22 гады душпастырскай дзейнасці пераўтварыў занядбанае месца, у якім у цэнтры пасвіліся каровы, у сапраўдны нацыянальны Версаль. Акрамя гэтага сколькі людзей святар прывёў да веры, пабудаваў касцёлы ў суседніх Варапаеве, Шаркоўшчыне, Парыжы. Паўсталі пад яго кіраўніцтвам і шматлікія капліцы, еўрапейскі выгляд набылі могілкі ў яго парафіях. Менавіта ў Мосары з'явіліся прыгожыя помнікі ў дагледжаным парку побач з храмам, паўстаў самы вялікі ў Беларусі хрысціянскі крыж, сюды тысячамі ехалі пабачыць сапраўдную прыгажосць паломнікі. Адкрыты і шчыры пробашч пайшоў у лепшы свет халодным студзеньскім днём 4 гады назад, а цяпер ён жыве ў сэрцах і ўдзячнай памяці людзей, якія яго ведалі, альбо пабывалі ў мястэчку. Дарэчы, і сам Мосар да свайго юбілею павінен змяніцца, папрыгажэць. Тут адрамантуюць сістэму паліву, ачысцяць штучныя вадаёмы, пасадзяць новыя кветкавыя кампазіцыі, якімі захапляўся лаўрэат нацыянальнай прэміі "За духоўнае адраджэнне" пры жыцці.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 22.05.14 | | | | Пятніца 23.05.14 | | | | Субота 24.05.14 | | | | Нядзеля 25.05.14 | | | | Пн.26.05.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +19 | +24 | +19 | +14 | +21 | +26 | +21 | +16 | +22 | +26 | +21 | +17 | +22 | +27 | +21 | +16 | +23 | +27 |
| Ціск | 753 | 754 | 755 | 754 | 754 | 754 | 754 | 753 | 753 | 753 | 752 | 752 | 752 | 752 | 752 | 751 | 750 | 750 | 749 |
| Вільготнасць | 95 | 75 | 48 | 77 | 85 | 68 | 46 | 73 | 83 | 68 | 45 | 75 | 83 | 68 | 42 | 77 | 87 | 70 | 41 |
| Вецер м/сек | 3 Ю | 3 Ю-З | 2 З | 1 Ю-В | 2 Ю | 3 Ю | 2 Ю | 2 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю | 2 Ю | 1 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю | 2 Ю | 1 Ю-В | 2 Ю | 1 Ю | 1 З |

# Аб самым надзённым

## ЧАРГОВЫМІ ДЫРЭКТЫВАМІ НЕ ДАБІЦЦА НЕАБХОДНАЙ АДДАЧЫ АД ВЯЛІЗНЫХ УКЛАДАННЯЎ У АЙЧЫННЫ АПК

■ Аляксандр Цішкевіч

**У дырэктыўным парадку нельга будзе чаго-небудзь станоўчага дасягнуць, павысіць канкурэнтназдольнасць беларускіх калгасаў і прэстыж працы ў сельскай гаспадарцы, адкуль пры першай магчымасці збягаюць маладыя спецыялісты, не бачачы для сябе перспектыў акрамя працы да цямна без выхадных і водпускаў па большай частцы зімой.**

Што б ні адбывалася цяпер у нашай краіне, трэба разглядаць пад прызмай прадстаячых прэзідэнцкіх выбараў восенню наступнага года. Вось і даўні беларускі лідар спачатку позна вечарам 5 мая правёў тэлефонныя перамовы са сваім расійскім калегам, а потым паляцеў у белакаменную сталіцу РФ. Падчас гэтага маскоўскага візіту, дзе не было сярод кіраўнікоў дзяржаў АДКБ толькі прэзідэнта Казахстана, менавіта А. Лукашэнка больш усіх гаварыў па праблемах Украіны і найбольш актыўна падтрымаў у гэтым пытанні крамлёўскага лідара У. Пуціна.

У выніку была дасягнута дамоўленасць, што Беларусь не стане блакіраваць падпісанне ў Астане дагавора аб стварэнні так званага Еўразійскага эканамічнага саюза, за што атрымала некалькі пернікаў. Па словах беларускага прэзідэнта быццам дасягнуты дамоўленасці з Расіяй па многіх пытаннях, найперш пастаавак расійскай нафты і газу. Масква пералічыць нам і 2 млрд. долараў крэдыту на падтрымку золатавалютных рэзерваў, якія і ў красавіку яшчэ знізіліся (пры такіх тэмпах да канца года краіна ўвогуле магла застацца без замежных запасаў валюты). Беларусы цяпер працягваюць актыўна скупляць долары-еўра, хоць курс амерыканскай валюты пераадолеў сімвалічны рубеж 10 тысяч рублёў.

Яшчэ адным клубком праблем застаецца сітуацыя ў айчынным аграпрамысловым комплексе. І невыпадкова была створана сёлета адпаведная міжведамасная рабочая група па вырашэнні шэрагу праблем сельскай гаспадаркі на чале з прэм'ерам М. Мясніковічам. Яе задача была падрыхтаваць шэраг праектаў дакументаў: найперш дырэктывы № 5, чаргова дэкрэта і шэрагу іншых актаў, якіх не прыйдзецца прымаць беларускім дэпутатам. Спецыялісты ўжо загаварылі, што вырашэнне кадравых пытанняў АПК можа быць праведзена ў рэчышчы ранейшага вопыту забароны звальнення работнікаў з мадэрнізіруемых дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў.

Характэрна, што пра даклад главе дзяржавы аб выніках працы "аграрнай групы" ( у нас створана і другая па праблемах ЖКГ) айчынныя дзяржаўныя СМІ расказалі вельмі сціпла, іх папрасілі не ўглыбляцца ў "нюансы і дэталі". Адзінае паведамілі, А. Лукашэнка падкрэсліў, што гэтыя пытанні вельмі хвалююць людзей і без вырашэння праблем АПК (лічы дарагога харчавання) нельга забяспечыць нармальнае жыццё грамадства. У беларускай сталіцы прызналі, што няма належнай аддачы ад тых велізарных інвестыцый, якія былі накіраваны ў вёску. Дастаткова нагадаць, што толькі на Дзяржаўную праграму адраджэння і развіцця вёскі на 2005-2010 гады пайшла астранамічная сума пад 70 трыльёнаў рублёў.

Што мы маем у выніку? Галоўнае, што ўстаноўленыя паказчыкі па вытворчасці валавай прадукцыі палёў і ферм не выконваюцца. Не расце вытворчасць збожжа, зніжаецца прадуктыўнасць галіны жывёлагадоўлі, без дзяржпадтрымкі большасць гаспадарак, асабліва ў Віцебскай вобласці, сталі б недзеяздольнымі. Сёлета ўпершыню нашы калгасы, учора СВК, на змену якім прыйшлі розныя ААТ і сельгасфіліялы, вялі веснавую сяўбу практычна без угнаення, бо не было проста грошай за што іх купіць. Многія гаспадаркі знаходзяцца ў крытычным фінансавым становішчы, бо пануе безгаспадарчасць, не захоўваюцца тэхналогіі вытворчасці з-за таго, што няма гаспадара на зямлі.

Аб гэтым даўно і ўсім вядома, але ў нас упарта працягваюць ісці сваім шляхам да невядома якога "светлага будучага". У сярэдзіне мая па краіне пачаліся занальныя сходы па абмеркаванні напрацовак сталічнай "аграрнай групы" з главамі "вертыкалі" і кіраўнікамі падраздзяленняў АПК, якія праводзяць сам кіраўнік Саўміна Беларусі М. Мясніковіч і віцэ-прэм'ер АПК М. Русы. Аднак чамусьці складваецца ўражанне, што і ў карыдорах вышэйшага кіраўніцтва не ведаюць, як можа папраўдзь няпростую сітуацыю, дабіцца хоць нейкіх вынікаў.

У дырэктыўным парадку нельга будзе чаго-небудзь станоўчага дасягнуць, павысіць канкурэнтназдольнасць беларускіх калгасаў і прэстыж працы ў сельскай гаспадарцы, адкуль пры першай магчымасці збягаюць маладыя спецыялісты, не бачачы для сябе перспектыў акрамя працы да цямна без выхадных і водпускаў па большай частцы зімой. У Беларусі хутчэй усяго пойдуць па шляху далейшага ўзбуйнення гаспадарак, аптымізацыі колькасці сельскагаспадпрыемстваў, каб на адну прыходзілася не меней 7 тысяч гектараў сельгасугоддзяў. На сусветным рынку харчавання канкурэнцыя будзе толькі ўзрастаць у бліжэйшыя гады і мы праз нейкі час пабачым, ці здольныя беларускія сяляне і работнікі АПК працаваць па-новаму.

## Дзень за днём

**Пасля выдзялення РФ $2 млрд. крэдыту і кампрамісу па нафтавых пошлінах Беларусь падпіша дагавор аб Еўразійскім эканамічным саюзе. Спецыялісты Мінэканомікі РБ папярэдзілі, што неўзабаве ў беларускіх тавараў прыбавіцца праблем з доступам на рынкі Расіі і Казахстана з-за канкурэнцыі. З пачатку года золатавалютныя рэзервы Беларусі зменшыліся яшчэ на 1,2 млрд. $. У паловы беларусаў, 1,5 млн. працуючых заробкі меншыя 500 долараў. Кляшчы пакусалі ўжо амаль 2 тысячы беларусаў, у 5 разоў болей, чым летась вясной. Нават падчас чэмпіянату свету па хакеі сталічным крамам загадалі прыбраць з паліц імпартнае піва. На гэты час Нацбанк рэкамендаваў абмежаваць рэзкія змены курсу рубля.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** ЕС услед за ЗША і ўладамі Украіны не прызналі вынікаў псеўда "рэферэндуму" ў Данецкай і Луганскай абласцях, прыгразілі Расіі новымі санкцыямі за яе палітыку там.

**Расія.** Услед за главой МЗС С. Лаўровым і У. Пуцін не стаў пярэчыць правядзенню прэзідэнцкіх выбараў ва Украіне, прызначаных на 25 мая, раней РФ хацела іх сарваць.

**Малдова.** НАТА перасцерагла Расію ад агрэсіі ў Прыднястроўі, віцэ-прэм'ер РФ Д. Рагозін прыгразіў румынам і малдаванам хутка патлумачыць, хто яны такія.

**Бельгія.** ЕС папярэдзіў Расію, што дазволіць "Газпраму" пастаўляць у Еўропу па новым газаправодзе "Паўднёвы паток" толькі палову газу, будуць і іншыя пастаўшчыкі паліва.

**Італія.** Кампанія Эні заявіла, што праз 5 гадоў яна поўнасцю адмовіцца ад закупак расійскага газу для краіны пасля запуску ў эксплуатацыю турэцкага газаправода ТАР.

**Літва.** Дзеючаму прэзідэнту Далі Грыбаўскайтэ крыху не хапіла галасоў для перамогі ў 1-м туры выбараў главы дзяржавы, яна без праблем пераможа 25 мая ў 2-м туры.

**Расія.** З чэрвеня Мінэнерга РФ уводзіць рэжым перадаплаты за пастаўкі газу для Украіны, яны могуць быць зусім спынены, бо ўкраінцы не згодныя з вельмі высокай цаной газу.

**Польшча.** Міністр эканомікі Я. Пехачыньскі пацвердзіў, што палякі летам 2015 года пачнуць здабычу свайго сланцавага газу, ад паставак газу з РФ адмовяцца да 2020 года.

**ЗША.** Памочнік дзяржсакратара В. Нуланд абвінавоціла РФ у агрэсіі, пасля перамоў у Жэневе прарасійскія баевікі ва Украіне захапілі 35 будынкаў і 3 тэлерадыёцэнтры.

**Расія.** З пачатку года інвестары вывелі з расійскай эканомікі ўжо 85 млрд. USD, рускія банкі і бізнесмены чакаюць хуткі эканамічны спад і рост цэн, РФ спаўзае ў рэцэсію.

**Францыя.** Калі Расія, папярэдзіў прэзідэнт Ф. Алланд, сарве выбары 25 мая ва Украіне, то Еўропа і ЗША увядуць супраць рускіх сур'ёзныя і балючыя эканамічныя санкцыі.

**Украіна.** Пасля ўступлення ў сілу закона аб акупіраваным Крыме на паўвостраў сталі пускаць толькі па спецпропусках, заблакіраваны і рух грамадскага транспарту.

**ЗША.** Эксперты МВФ пацвердзілі, што эканоміка Расіі ўжо ў рэцэсіі, за адзін тыдзень міжнародныя рэзервы Цэнтрабанка і ўрада РФ скараціліся яшчэ на 11 млрд. долараў.

**Расія.** У Маскве адышла ў вечнасць адразу пасля свайго 80-годдзя легенда сусветнага кіно, народная артыстка РФ Таццяна Самойлава ўслед за калегамі І. Савінай, Л. Гурчанка

**Бразілія.** Віцэ-прэзідэнт МАК Джон Коутс назваў крытычным ход падрыхтоўкі Рыа-дэ-Жанейра да летняй Алімпіяды-2016, шэраг яе аб'ектаў яшчэ не пачалі ўзводзіць.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка пацвердзіў, што да канца года таксама пройдзе плаўна і акуратна дэвальвацыя нацвалюты яшчэ на 5-7 %, сёлета дагэтуль рубль "саслабеў" ужо на 8 %.

**Дзяржынск.** Раённы цэнтр атрымаў новы статус горада-спутніка Мінска, тут вырашана развіваць прамысловасць замест мегаполіса, палепшыць транспартны рух са сталіцай.

**Мінск.** Са згоды ўрада Беларусі дырэкцыя радыёзавода "Прамсувязь" накіравала прапанову кітайскай кампаніі Huawei набыць увесь дзяржпакет акцый прадпрыемства.

**Брэст.** На веснавой сяўбе, як высветліў Дзяржкантроль, у вобласці прастойвалі новыя энерганасычаныя трактары з-за недахопу 660 механізатараў, а 40 п'яных затрымала ДАІ.

**Бабруйск.** Завод трактарных дэталяў і агрэгатаў і "Бабруйсксельмаш", як і яшчэ 9 прадпрыемстваў РБ, адгрузяць свае неліквіды ў лізінг па загадзе А. Лукашэнкі.

**Шклоў.** Мясцоваму заводу газетнай паперы прадаставілі пакет прэзідэнцкіх ільгот пад праект з Чэхіяй коштам 78 млн. еўра па стварэнні новай вытворчасці паперы-асновы.

**Заслаўль.** У горадзе пачалася барацьба за помнік Леніну пасля рашэння гарвыканкама перанесці манумент з цэнтральнай плошчы ў іншае месца, супраць акцыі камуністы.

**Нясвіж.** За плакат "Не пуцінскай вайне з Украінай!" міліцыя затрымала ў райцэнтры актывістку БХД Наталлю Бордак, у Мінску было арыштавана прэвентыўна 30 чалавек.

**Брэст.** Ноччу не пусцілі ў Беларусь і пратрымалі да раніцы на чыгуначным вакзале па загадзе з Расіі польскага дэпутата Еўрапарламента Марэка Мігальскага разам з калегамі.

**Свіслач.** Міліцыя затрымала п'янага масквіча, ён напіўся на аграсядзібе ля возера, угнаў машыну Пежо яе работніка і разбіў, супраць угоншчыка распачалі крымінальную справу.

**Мінск.** Былы прэм'ер В. Кебіч прызнаўся, што ведаў аб сваім паражэнні ў 2 туры выбараў 1994 г, але не захацеў з іх зняцца, а тады б адбыліся новыя выбары главы Беларусі.

**Жыткавічы.** Прыгавор жыхару райцэнтра – 6,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі-пасяленні пакінулі ў сіле, ён вінаваты ў гібелі 5 чалавек з лодкі на возеры Белым.

**Пінск.** Пры будаўніцтве жылога дома ў дачным кааператыве ў вёсцы Заполле вечарам загінулі двое мужчын ва ўзросце 47 і 60 гадоў з-за разбурэння апалубкі вадкім бетонам.

**Гродна.** Толькі пасля прыезду работнікаў банка медыкі змаглі аказаць дапамогу касіру абменнага пункта валют, калі ёй раптам стала дрэнна і яна страціла прытомнасць.

**Мінск.** На лета плануюць арганізаваць у сталіцы канцэрт барадатай пераможцы конкурсу песні "Еўрабачанне-2014" з Аўстрыі Канчыты Вурст, яе трыумф там быў датэрміновым.

# Пракуратура выявіла сур'ёзныя недахопы ў працы ЖКГ Віцебскай вобласці



■ БЕЛТА

**Органы пракуратуры Віцебскай вобласці выявілі сур'ёзныя недахопы ў рабоце арганізацый, якія ўваходзяць у сістэму Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі, паведамілі БЕЛТА ў Генпракуратуры.**

Пры правядзенні наглядных мерапрыемстваў устаноўлена, што арганізацыі жыллёва-камунальнай гаспадаркі не ў поўнай меры выконвалі задачы па павышэнні эфектыўнасці работы і мадэрнізацыі жыллёва-камунальнай гаспадаркі па выніках працы ў 2013 годзе. Так, адзначаецца рост дэбіторскай запазычанасці арганізацый жыллёва-камунальнай гаспадаркі вобласці (запазычанасць насельніцтва - Br4,2 млрд (7,5 %), суб'ектаў гаспадарання - Br48,6 млрд(+46%)), аднак належныя меры па спагнанні гэтай запазычанасці не прымаюцца.

Арганізацыямі ЖКГ не дасягнуты неабходны ўзровень рэнтабельнасці, не выканаecon пакзчыкі па замене ліфтаў, зніжэння ўдзельнай расходу электраэнергіі, забеспячэнні долі мясцовых відаў паліва ў балансе кацельна-пячнога паліва і г.д.

Акрамя таго, праверкай устаноўлены парушэнні ўтрымання пад'ездаў і іншых дапаможных памяшканняў. У ходзе рэйдавых мерапрыемстваў выяўлены парушэнні патрабаванняў пажарнай бяспекі ў паддашкавых і падвальных памяшканнях жылых дамоў. Прадпрыемствы ЖКГ не заўсёды выраблялі аб'ектыўную ацэнку эксплуатацыйнага стану вуліц населеных пунктаў, не забяспечвалі належным чынам іх рамонт.

Практычна ва ўсіх раёнах вобласці не выконваюцца патрабаванні па змесце абсталявання дзіцячых гульнявых пляцовак на прыдамавых тэрыторыях, грамадскіх і школьных стадыёнах.

Парушаюцца санітарныя нормы і правілы на тэрыторыях населеных пунктаў вобласці: несвоечасова прыбіраецца смецце, дрэнна ўтрымліваюцца кантэйнерныя пляцоўкі. Прадпрыемствамі жыллёва-камунальнай гаспадаркі належным чынам не арганізавана работа па адлове безнаглядных жывёл, прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці грамадзян, якія дапускаюць парушэнні правілаў утрымання хатніх жывёл.

У ходзе праверкі таксама ўстаноўлены парушэнні заканадаўства аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, аб дзяржаўных закупках і іншыя.

Па фактах усіх гэтых парушэнняў пракурорамі гарадоў і раёнаў вобласці ўнесена 25 прадстаўленняў, вынесена 13 прадпісанняў, абвешчана 1 афіцыйнае папярэджанне. Пракуратурай вобласці ў Віцебскі аблвыканкам унесена прадстаўленне аб ліквідацыі выяўленых парушэнняў заканадаўства, прычын і ўмоў, якія іх выклікалі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Гарадок.** У аўральным рэжыме пачалі працаваць будаўнікі ПМК-51, каб паспець здаць да "Дажынак-2014" 2 новыя шматпавярхоўкі і завяршыць рэканструкцыю райаддзела МНС.

**Віцебск.** Ратаваць ад краху праблемны тэлезавод "Віцязь" даручылі новаму гендырэктару Сяргею Гунько, ранейшы тэлегігант цяпер выжывае за кошт выпуску медыцынскай тэхнікі.

**Талачын.** Кансервавы завод заключыў шмат дагавораў на пастаўкі ў пачатку ліпеня ў РБ і РФ ранняй бульбы галандскай селекцыі, клубні на 820 гектарах пасадзілі да 1 мая.

**Сянно.** Тэлеканал СТБ паказаў рэальнае жыццё калгаса "Сінягорскае", дзе прастойвалі сеялкі, цяляты былі някормленыя, шмат іншых праблем, як і ў многіх гаспадарак вобласці.

**Наваполацк.** З калоніі Віцебска вярнуўся дамоў палітвязень Андрэй Гайдукоў, яго затрымаў КДБ восенню 2012 года за замах на супрацоўніцтва з замежнай спецслужбай.

**Віцебск.** Пазачарговая сесія абласнога савета дэпутатаў накіравала 30 мільярдаў рублёў з першага траншу дзяржпошліны на допуск да дарожнага руху на рамонт дарог абласнога цэнтра.

**Докшыцы.** Пасярод ночы ў вёсцы Лаці ўзарваўся газавы балон, узнік пажар, які забраў жыцці 66-гадовай гаспадыні і яе 4-гадовага ўнука, загарэліся хлеў і аўто Hyndai Sonata.

**Віцебск.** Пасля цяжкай хваробы на 82-м годзе жыцця памёр вядомы паэт, празаік, перакладчык Давід Сімановіч, ён вярнуў гораду імя М. Шагала, быў ля вытокаў ТБ.

**Лепель.** На працягу двух дзён у горадзе праводзіўся абласны конкурс духавой музыкі, сярод 21 калектыву лепшым стаў народны духавы аркестр з Наваполацкага ГДК.

**Глыбокае.** З візітам у адказ раён наведала група педагогаў з Германіі, з прафесійнай школы акругі Хільдбургхаўзен, у СШ № 3 прайшоў вечар памяці паэта В. Гарановіча.

**Чашнікі.** Да Сасняготскай пушчы аднавілі дарогу і там пачалі аднаўляць партызанскі лагер брыгады Дубава, поўнасцю работы завяршаць да 70-годдзя Вялікай Перамогі.

**Расоны.** З-за вымірання насельніцтва раён стаў першым у Беларусі, дзе засталося пражываць меней 10 тысяч чалавек, паўстала пытанне, ці варта існаваць такому раёну?

**Ушачы.** Па невядомых прычынах у вёсцы Чарапоўшчына згарэла гістарычная драўляная сядзіба пана Маліноўскага пабудовы 1890 года, у ёй раней была калгасная кантора.

**Талачын.** У раёне засталося толькі 18 школ, з іх 12 – сярэднія, усяго вучыцца 2600 дзяцей, аднак на беларускай мове займаюцца 95 вясковых вучняў, большасць школ рускамоўныя.

**Браслаў.** У вёсцы Падрукша раніцай загінула ў агні пенсіянерка, у той дзень яе дачка паехала ў раённы цэнтр за прадуктамі, за 20 хвілін да трагедыі яны пагаварылі па тэлефоне.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Такога ўрагану Глыбокае яшчэ не бачыла!



**Дзень 19 траўня выдаўся ў Глыбокім спякотным і душным. Яўная прыкмета – неўзабаве будзе залева!**

■ **Уладзімір Скрабатун**, *тэкст і фота*

Так і здарылася! А 19-й гадзіне напаўзлі свінцовыя хмары на горад, пачаўся лівень з градам (велічыня градзін дасягала памераў вішні), наляцеў моцны вецер, дрэвы хінуліся долу, бліскала маланка, грымеў гром. Цягнулася гэта страхоцце хвілінаў 20. І ўсё – развіднела, стала ціха і цёпла.

А тут тэлефанаванні! Дзесьці сарвала дах, дзесьці ўпалі дрэвы.

Праехаліся па гораду. Асфальт спрэс усцелены галінамі дрэваў, лісцем, суквеццямі каштанаў… Вуліцы Леніна і Горкага перакрытыя для руху паваленымі дрэвамі, аўта едуць вакольнымі вуліцамі. У парку Перамогі – буралом, дрэвы ўпалі побач з БМД, ледзве не пашкодзілі помнік афганцам. Перакуленыя ветрам лаўкі.

На вуліцы Горкага пападала шмат дрэваў. На Копцеўцы - суцэльны буралом, пашкоджаныя надмагільныя помнікі. Вялікая 200-гадовая ліпа з колішняга кармеліцкага сада вывернутая з коранем, упаўшы – ушчэнт разнесла частку цаглянай сцяны 17 ст. На 2-павярховым катэджы, што насупраць стадыёна, голыя кроквы – даху няма!

Шмат дзе на дамах прыватнага сектару сарваныя з дахаў па некалькі шыферын, а на 3-павярховым доме па вуліцы Камуністычнай, 37-А зляцела значная частка шыфернага даху.

Штосьці з нашай прыродай не тое. Стаялі вялізныя ліпы вякамі – 200, а то й 300 гадоў, яшчэ манахамі кармелітамі саджаныя. Стаялі - і ніякая бура іх не ламала!

А мо іх такога маштабу раней і не было? А тут чарговы буралом! У 2012-м, перад Днём беларускага пісьменства, таксама быў буралом - павалена з два дзясяткі дрэў у горадзе, але такога бураломy як цяпер, напярэдадні 600-годдзя горада, штосьці не прыпамінаецца. Тут не дзясятак паваленых дрэў у горадзе, паўсотні —гарантавана, а той і пад сотню.

Прыкра за такі «падарунак» ад прыроды! У горадзе вядзецца шмат работ па добраўпарадкаванні, каб годна сустрэць 600-гадовы юбілей Глыбокага. Цяпер жа алеі і паркі будуць зіяць пусткамі.



# У Глыбокім усталявалі скульптуру Мюнхаўзена

**Скульптура знакамітага барона, які ляціць на ядры з падзорнай трубой, усталяваная непадалёк ад могілак на Копцёўцы. Скульптуру вырабілі глыбоцкія майстры.**

■ **Зміцер Лупач**



Наогул, ідэю глыбоцкіх уладаў можна толькі вітаць. Гэта можа прывабіць больш турыстаў у наш горад, якія купяць тут сувеніры, патрацяць свае грошы, што ў выніку будзе толькі на карысць нашаму гораду.

Усё пачалося з таго, што некалькі гадоў таму краязнаўцы знайшлі на могілках у Копцеўцы магілу Мюнхаўзена. Вядома ж, не таго Карла Фрыдрыха Іераніма, які апісаны ў знакамітым літаратурным творы. У нас пахаваны нехта Фердынанд фон Мюнхаўзен са сваёй жонкай. Ці былі яны сваякамі таму Мюнхаўзену, невядома. Хутчэй за ўсё, не.

Тым не менш, магіла вельмі папулярная ў турыстаў, і грэх было б гэта не выкарыстаць.



# Здзіўляе абыякавасць людзей да браканьераў

**Травень, апошні месяц вясны, на двары цёпла і сонечна, штодзень ідуць дажджы, і прырода змянілася, ажыла, заквітнела. У выходныя дні народ масава пацягнуўся на адпачынак у лес, на азёры, на прыроду і гэта самыя «гарачыя» дні для супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Бо, не сакрэт, што культура нашых грамадзян яшчэ далёкая ад звычайнага чалавечага разумення. Пасля адпачынку грамадзян заўсёды знойдзеш кінутае смецце, непагашаныя вогнішчы, пустыя бутэлькі, звычайнай з'явай становіцца мыйка аўтатранспарту каля вадаёмаў, здабыча рыбы сеткамі днём навідавоку ў грамадзян. Але, галоўным чынам, усе парушэнні грамадзянамі ігнаруюцца, няма рэакцыі на іх учыненне, поўная абыякавасць, максімум, што могуць сказаць, маўляў, я вось учора бачыў, як лавілі рыбу сеткай ці кінулі смецце, але інспектараў не было. Інспектары, наведваючы вадаёмы, увесь час сутыкаюцца з рыбакамі-аматарамі закінуць дзве-тры вуды ў перыяд вясновай забароны. Хоць ведаюць, што гэта забаронена і штраф за, здавалася б, дробнае парушэнне прадугледжаны ад 1,5 да 7,5 млн. рублёў, але ўсё адно такія рыбачкі ёсць. А вось каб прыбраць смецце пасля сябе або тое, што пакінуў на беразе папярэдні рыбак, дык гэтага няма, лепш буду сядзець у лайне з дзвюма вудамі, але прыбіраць не буду.

Субота, выходны дзень, на ўсіх вадаёмах досыць шмат рыбакоў, але рэакцыя на факты відавочнага браканьерства ўсюды аднолькавая – ніякай рэакцыі, мая хата з краю.

Так, 17 траўня супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі, знаходзячыся ў прыродаахоўным рэйдзе каля 15 гадзін непадалёк ад вёскі Койры Пастаўскага раёна затрымалі жыхара г. Паставы грамадзяніна К., які з дапамогай сеткі ажыццяўляў здабычу рыбы на рацэ Мядзелка. Характэрна, што дадзенага грамадзяніна інспектары ўжо затрымлівалі 25 красавіка бягучага года за незаконнае паляванне, здабычу дзікага гуся ў забаронены час. Раённы суд вынес суровае рашэнне: штраф 25 базавых велічынь, 3 млн. 750 тысяч рублёў, пазбаўленне права на паляванне і канфіскацыю зброі. Аднак, гэты ўрок не пайшоў на карысць і грамадзянін К. вырашыў пагуляць з законам яшчэ раз, наўмысна, ведаючы пра тое, што лоўля рыбы сеткамі забаронена, пайшоў на парушэнне. Чарговае рашэнне суда па лёсе К. будзе хутка вынесена.

У гэты ж дзень у 16 гадзін інспектары затрымалі яшчэ аднаго парушальніка прыродаахоўнага заканадаўства, але ўжо непадалёк ад вёскі Кураполле Пастаўскага раёна. Жыхар гэтай вёскі, Іван, назавём яго так, вырашыў паесці свежай рыбкі. Узяўшы ў адрыне сетку, што захоўвалася там на ўсякі выпадак, ён на ровары паехаў на раку Лучайка, дзе навідавоку ў шматлікіх рыбакоў дастаў сетку. Рэакцыя людзей на гэта была нулявая. «Не, месца не зусім падыходзячае, – вырашыў Іван, – прыйдзецца вартаваць сетку, паеду ў іншае месца».

Але далёка паехаць не атрымалася, ён быў затрыманы інспектарамі. За незаконнае знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях з забароненай прыладай рыбалоўства, а менавіта сеткай, грамадзяніну пагражае штраф у памеры да 20 базавых велічынь.

Гэта толькі адзін дзень працы інспектараў па ахове нашай прыроды. На жаль, парушальнікаў і браканьераў менш не становіцца, а абыякавасць нашых людзей да браканьераў здзіўляе. Абодва парушальнікі былі затрыманы днём, калі на беразе рэк знаходзіўся не адзін дзясятак рыбакоў з вудамі, але ніхто не спыніў парушальнікаў. Шмат хто жыве па прынцыпе, мая хата з краю, няхай іншыя ахоўваюць, а я толькі буду карыстацца дарамі прыроды.

Пра ўсе вядомыя і ўчыненыя факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).

# Біскуп Буткевіч асвяціў касцёл у вёсцы Зашчэсле (Ураджайнае)

**Біскуп Алег Буткевіч асвяціў 17 мая касцёл Маці Божай Ружанцовай у вёсцы Зашчэсле (Ураджайнае)* ў Глыбоцкім раёне. Святыня была збудаваная айцамі капуцынамі з Докшыц.**

■ **Кастусь Шыталь**, *тэкст і фота*

Гісторыя зашчаслянскай святыні адлюстроўвае ўсю драматычную гісторыю каталіцкай супольнасці ў Беларусі. Першую капліцу, якую ў 1857 годзе паставіў мясцовы абшарнік Драздовіч, разабралі царская ўлады “па просьбе” праваслаўнага духавенства. У 1902-м вернікі адбудавалі святыню, ды яе разбурылі пасля апошняй вайны камуністы. Падмуркі на могілках застаюцца нямым сведкам гвалту над верай.

Да 1925 года капліца адносілася да докшыцкай парафіі, а сама вёска - да Докшыцкай гміны. Сімвалічна, што менавіта докшыцкія манахі адбудавалі святыню ў гады незалежнасці. І належыць яна да Докшыцкага дэканата.

Старыя капліцы былі драўлянымі. Новы касцёл – мураваны, грунтоўна перабудаваны з калгаснай сталоўкі. Будоўля расцягнулася на цэлае дзесяцігоддзе праз адсутнасць стабільнага фінансавання.

## Грунтоўна, як у Вялікім Княстве

“Будуем, як даўней у Вялікім княстве Літоўскім. З каменю, цэглы – усё грунтоўна”, - кажа айцец Марэк Пасют. За плячыма гэтага простага і ветлівага святара – будоўлі святыняў у Зашчэслі і Бярозаўцы, аднаўленне - у Гняздзілаве, вялікі рамонт у Докшыцах.

Касцёл прыгожы. Каменная абліцоўка сценаў, шулы з чырвонай цэглы, вежачка са званом і крыжам наверсе. Аўтар гэтае прыгажосці – беларускі архітэктар і мастак Валер Шчасны – зрабіў і праект касцёла, і аздобіў яго ўнутры.

Над алтаром - вялізны крыж святога Даміяна, копія таго абраза Распятага, які натхніў на пакаянне святога Францішка. Менавіта ад жабрака з Асізі вядзе сваю гісторыю ордэн капуцынаў.

Стацыі Крыжовага шляху аформленыя па-мінімалісцку. Сапраўдная адметнасць зашчаслянскага касцёла крыху вышэй. Дарога Святла – чатырнаццаць абразоў, якія распавядаюць гісторыю ад Уваскрасення да Спаслання Святога Духа. Пранікнёныя выявы, створаныя ў стылі ўсходняй іканаграфіі. Толькі глыбока верующы чалавек можа напісаць такія.

Касцёл поўны людзей. Сабраліся і мясцовыя вернікі, і людзі з суседніх парафій. Алтар упрыгожаны кветкамі – дзясяткі белых ружаў. Урачыстасць, якая бывае толькі аднойчы.

## Каб душа не стала руінай

Біскуп Алег Буткевіч увайшоў у касцёл ціха. Укленчыў на хвіліну перад алтаром, скіраваўся ў закрыстыю, каб вярнуцца з урачыстай працэсіяй і пачаць Літургію.

“Дзякую айцу Марэку за гэтую прыгажосць. Не проста святыню, а прыгожую святыню. Бог ёсць прыгожы, і Яго святыня мае быць прыгожай”, - кажа біскуп.

Юнак чытае ўрывак з кнігі Нээміі. Расповед пра тое, як габрэі пасля вяртання з вавілонскага палону са слязьмі на вачах слухалі словы Пяцікніжжа, якія чытаў святар Эздра.

Біскуп бярэ ў рукі мікрафон і пачынае казанне. “У нашых вёсках мы можам убачыць пакінутыя хаты - закалочаныя вокны, правалены дах. Тое самае адбываецца з душой, калі яна без Бога, - кажа ён. - Па чым пазнаем, што людская душа – руіна, што замест жыцця ў ёй - смерць? Калі паміраe душа, яна распаўсюджвае смерць навокал”. Сіроцтва, забойствы ненароджаных, разбіццё сем’яў і п’янства – усё гэта ад таго, што чалавек забыўся на Бога, пераконвае біскуп.

“Некаторыя людзі кажуць: Бог у мяне ў душы. Жывуць людзі ў такім падмане. Але Бог не ўваходзіць туды, куды яго не запрашаюць, інакш кажучы, туды, дзе пануе грэх. Пустых месцаў няма ў свеце”, – навучае біскуп Алег.

Словы біскупа простыя і шчырыя, як простымі былі словы Хрыста, Апосталаў і многіх святых праведнікаў. У голасе адчуваецца натхненне і цвёрдая вера. Час ад часу на твары з’яўляецца ўсмешка, якая нагадвае, што перад табою – жывы чалавек, а не зашпілены на ўсе гузікі адміністратар.

## Абрад пасвячэння

“Што азначае пасвячэнне? Будынак вымаецца са свецкага ўжытку і прызначаецца месцам малітвы. Ён ужо не будзе выкарыстоўвацца ні для якіх мэтаў, акрамя малітвы”, - тлумачыць біскуп абрад, які вось-вось здзейсніцца.

Асвячэнне касцёла пачынаецца з літаніі да Усіх Святых. Гучыць арганная музыка, хор пералічвае спевам імёны Багародзіцы, Апосталаў, праведнікаў і пакутнікаў, людзі адказваюць: “Маліцеся за нас”. Стагоддзі гісторыі Касцёла нібы праплываюць пад скляпеннямі новага храма.

Біскуп спявае малітву асвячэння. Намашчае асвячаным алеем алтар святыні. Водарам кадзіла напаўняецца храм. Пастыр прамаўляе: “Няхай у Касцёле яснее святло Хрыста”, ды чыркае запалкай, каб запаліць дагэтуль патушаныя свечкі.

Поўныя мудрасці словы малітвы, абрады, у якіх кожнае дзеянне мае глыбокі сэнс. Кожны ўдзельнік – біскуп, святары, міністранты, спевакі на хорах - ведае, што яму рабіць. Але гэта не тэатр. Тут усё – сапраўднае.

“Дзякуем Пану Богу”, - прамаўляе біскуп напрыканцы, ды яшчэ раз віншуе вернікаў. Пачынае служыць Эўхарыстычную Літургію, найвялікшую малітву Касцёла, падчас якой хлеб і віно будуць ператвораныя ў Цела і Кроў Хрыста, каб стаць спажыткам для вернікаў.

Напрыканцы вернікаў павіншавалі айцец Марэк Пасют і айцец Андрэй Жылевіч, віцэправінцыял капуцынаў у Беларусі. Тацццяна Малатоўнік, прадстаўніца райвыканкама, зачытала прывітальнае слова ад яго старшыні Алега Морхата.

Біскуп яшчэ раз павіншаваў людзей ды паблагаславіў іх. Пасля Імшы людзі сфатаграфаваліся са святарамі і біскупам. Свята скончылася пачастункам у будынку вясковага клуба.





*Вёска Зашчэсле была перайменаваная ва Ураджайнае ў 1964 годзе. Людзі старэйшага веку дагэтуль выкарыстоўваюць гістарычную назву.

# «Святымі не нараджаюцца – святымі становяцца»

## У Лучаі ўшанавалі св. Андрэя Баболю

**Фэст у гонар святога Андрэя Баболі адбыўся ў суботу 17 траўня ў Лучаі. Гэты святы лічыцца апекуном лучайскай парафіі.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*



Вернікаў сустрэў прыгожа ўбраны касцёл. Свята сабрала не толькі парафіян, але і шматлікіх гасцей. Імшу па просьбе пробашча парафіі ксяндза Мікалая Ліпчыка ўзначаліў ксёндз Марат Казлоўскі, святар з Мосара.

Напачатку службы прагучалі разважанні на тэму “Святымі не нараджаюцца – святымі становяцца». Вернікам нагадалі гісторыю жыцця і пакутніцкай смерці Андрэя Баболі, якога яшчэ называюць Апосталам Палесся. Гэты святы быў жорстка закатаваны казакамі ў 1657 годзе ў Янаве Палескім (цяпер Іванава Брэсцкай вобл.), але не здрадзіў веры. Пасля ксёндз Мікалай прамовіў малітву за Беларусь.

Андрэй Лугін, саліст гурта «Laudans», прачытаў паэмы «Андрэй Баболя – мучанік беларускі» і «Мучанік за веру”. Гэтыя паэмы напісаў Янка Купала яшчэ да рэвалюцыі, але яго аўтарства ўдалося ўстановіць толькі ў наш час. У гэтых творах распавядаецца пра святарскае служэнне і пакутніцкую смерць святога.

На заканчэнне Імшы вернікі прайшлі з працэсіяй вакол касцёла. Жадаючыя маглі ўшанаваць рэліквіі святога Андрэя Баболі, якія з мінулага года знаходзяцца ў касцёле ў Лучаі.

Прыемнай нечаканасцю для вернікаў стала паведамленне ксяндза Мікалая пра пілігрымку па слядах Андрэя Баболі, якая плануецца напрыканцы лета. Плануецца наведаць Пінск, Лагішын, Іванава, Нясвіж.

Закончылася свята канцэртам, што стала ўжо добрай традыцыяй у Лучаі. На гэты раз выступілі гурт «Laudans» з Мінску і гарманіст з Шаркоўшчыны Чэслаў Рачыцкі. Яны па чарзе радавалі гледачоў сваімі творамі. Некалькі песень выканаў таксама моладзевы гурт з Паставаў.

Ксёндз Мікалай Ліпскі падзякаваў музыкантам і запрасіў усіх прысутных на наступныя святы – Свята сем'яў, якое пройдзе 29 чэрвеня, і парафіяльны адпуст святой Ганны 26 ліпеня.



# З 12 па 21 траўня Дзяржаўтаінспекцыя праводзіць Рэспубліканскую акцыю “Дзіця – галоўны пасажыр!”

■ **А.І. Завадскі,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

Мэта дадзенай акцыі складаецца ў папулярызацыі выкарыстання сродкаў пасіўнай бяспекі, якімі з’яўляюцца рамяні бяспекі, дзіцячыя аўтакрэслы, святлоадбівальныя элементы, моташлемы і г.д.

Пра важнасць дадзеных сродкаў мы не раз публікавалі артыкулы на старонках нашай газеты, але хацелася б яшчэ раз закрануць дадзеную тэму.

Дарога і аўтамабіль – суровыя і бязлітасныя да ўсіх удзельнікаў дарожнага руху. Дзеці з’яўляюцца самымі неабароненымі, асабліва ў тым выпадку, калі яны знаходзяцца ў салоне аўтамабіля ў якасці пасажыраў.

Вельмі сур’ёзныя траўмы падчас сутыкненняў атрымліваюць дзеці, якія сядзяць не ў дзіцячых сядушках і не прышпіленыя рамянямі. Хоць дзеткі, якія сядзяць на штатных сядушках і прышпіленыя звычайнымі рамянямі бяспекі атрымліваюць цялесныя пашкоджанні ў 5 раз часцей, чым тыя, хто здзяйсняе паездкі ў сядушках, падабраных па росце і камплекцыі. Як паказваюць даследаванні, выкарыстанне дзіцячых аўтамабільных крэслаў можа паменшыць на 70 - 90% рызыку атрымання дзіцем траўмаў ці смяротнага зыходу. Напрыклад, падчас лабавога сутыкнення транспартных сродкаў пры хуткасці 50 км/гадзіна дзіця вагой 25 кг. рухаецца наперад пад дзеяннем энергіі з сілай снарада масай у адну тону, што раўнасільна падзенню з чацвёртага паверху. У такой сітуацыі, нават знаходзячыся ў руках у дарослага чалавека, дзіцяці не пазбегнуць цяжкіх траўмаў.

Нельга абысці важнасць выкарыстання рамянёў бяспекі, якія як лічаць некаторыя кіроўцы, не патрэбныя і выкарыстоўваюць іх толькі пры з’яўленні працаўніка ДАІ. Аднак, карысць рамянёў даўно доказана пры правядзенні розных эксперыментаў. Рамяні бяспекі ратуюць жыцці людзей у лабавых сутыкненнях, пры з’ездах з праезнай часткі і перакульванні, пры наездах на перашкоды. І хоць усе ведаюць пра гэта, усё адно ігнаруюць патрабаванні ПДР, а дарма. Ніхто з нас не ведае, дзе нас можа чакаць бяда. Так што мы раім: сеў у аўтамашыну - прышпіліся сам і прышпілі пасажыра.

У пешаходаў нядаўна з’явілася магчымасць максімальна зменшыць верагоднасць траплення ў дарожна-транспартныя здарэнні, гэта ўжыванне святлоадбівальных элементаў. Святлоадбівальныя элементы прызначаныя для лепшай бачнасці пешаходаў у цёмны час сутак, ва ўмовах недастатковай бачнасці ў святле фар аўтамабіля або іншай крыніцы святла. Святлоадбівальнік дазваляе кіроўцу заўважыць пешахода з адлегласці 200 метраў.

Яшчэ адзін важны сродак пасіўнай бяспекі нельга не адзначыць, гэта мотошлем. Як паказвае практыка, матацыкліст, які патрапіў у дарожна-транспартнае здарэнне атрымлівае вельмі цяжкія траўмы. Але гэтыя траўмы парой смяротныя. Галоўным чынам кожны трэці матацыкліст, які кіраваў матацыклам без мотошлема і які патрапіў у ДТЗ – гіне. Бо практычна ў кожным ДТЗ матацыкліст атрымлівае цяжкія траўмы галавы. Раім не грэбаваць дадзеным сродкам абароны і нагадваем, што ён павінен быць абавязкова зашпіленым.

Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху! Нагадваем Вам аб адміністрацыйнай адказнасці за парушэнні некаторых артыкулаў адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь:

**Частка 4. Артыкула 18.2.** Кіраванне транспартным сродкам вадзіцелем, не прышпіленым рамянём бяспекі, перавозка пасажыраў, не прышпіленых рамянямі бяспекі, а роўна кіраванне матацыклам або перавозка на ім пасажыраў без мотошлемаў ці з не зашпіленымі мотошлемамі – цягне накладанне штрафу ў памеры да адной базавай велічыні.

**Частка 9. Артыкула 18.2.** Дзеянні, прадугледжаныя часткай 4 дадзенага артыкула, здзейсненыя паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такія ж парушэнні – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзвюх да пяці базавых велічынь.

**Частка 1. Артыкула 18.23.** Парушэнне Правіл дарожнага руху пешаходам, асобай, якая кіруе роварам, конным транспартным сродкам, ці асобамі, якія ўдзельнічаюць у дарожным руху і не кіруюць транспартным сродкам – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры ад адной да трох базавых велічынь.

**Частка 2. Артыкула 18.23.** Парушэнні ПДР, указаных у ч.1 дадзенага артыкула, здзейсненыя ў стане алкагольнага ап’янення – цягнуць за сабой штраф у памеры ад трох да пяці базавых велічынь.

# Не плаціш за жыллё – высяляць ў судовым парадку!

■ **І.В. Рыпінскі,**
*нам. начальніка ААПП Глыбоцкага РАУС.*

У адносінах грамадзян, якія дапускаюць супрацьпраўныя паводзіны і выкарыстоўваюць сваё жыллё для збору асобаў, што вядуць асацыяльны лад жыцця, для распівання спіртных, напояў, якія не выконваюць іншыя правілы карыстання жылымі памяшканнямі, а таксама правілаў супрацьпажарнай бяспекі дзейсным заканадаўствам, прадугледжаны наступныя віды адказнасці:

**- у артыкуле 86** Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь указана, што наймальнік жылога памяшкання дзяржаўнага жыллёвага фонду і тыя, што пражываюць сумесна з ім члены яго сям’і, якія можа без паважлівых прычынаў шасцімесячную запазычанасць па плаце за жыллёва-камунальныя паслугі і плаце за карыстанне жылым памяшканнем, падлягаюць высяленню ў судовым парадку з падаваннем ім іншага жылога памяшкання па агульнай плошчы меней займананага жылога памяшкання і (ці) што саступае яму па сваіх спажывецкіх якасцях.

**-у артыкуле 85** указана, што грамадзяне, якія на працягу года, тры і больш разоў прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў карыстання жылымі памяшканнямі, утрыманні жылых і дапаможных памяшканняў, якое выявілася ў разбурэнні, псаванні жылога памяшкання або ў выкарыстанні яго не па прызначэнні, ці за іншыя парушэнні патрабаванняў Жыллёвага кодэкса Рэспублікі: Беларусь, якія робяць немагчымым для іншых пражыванне з імі ў адной кватэры ці ў адным жылым доме, падлягаюць высяленню ў судовым парадку без падавання іншага жылога памяшкання.



## Віншаванкі

*Яўгена Юр’евіча Мартыновіча*

**з днём нараджэння!**

Поздравляем, не щадя усилий,
Мой единственный и драгоценный брат,
Чтоб сумел при красоте и силе
Век прожить без боли и утрат.
Оставайся девушек любимцем,
Поскорей судьбу свою найди,
Ведь любовь поможет гордой птицей
Покорять вершины на пути.
Ты — опора наша и отрада,
Самый главный в жизни человек.
Лучше сына, друга, шурина и брата
Нам не отыскать за целый век.
Прежним до седых волос останься,
Нам даря любви своей тепло,
Не болей и чаще улыбайся —
Всем с твоей улыбкою светло.

*Сястра Юля і Міша.*

*Алёну Сяргееўну Капшуль*

**Віншуем з нагоды Дня народзін!**

Тебе сегодня в светлый праздник
Хотим мы счастья пожелать,
Удачи, радости, успеха,
Здоровой быть, беды не знать,
Преграды в жизни и помехи
Легко и быстро устранять,
Побольше смеха, меньше грусти
И никогда не унывать!

*Сябры Глыбоцкай філіі БАЖ*

## МНС інфармуе
**на 20.05.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 486;
Гібель людзей – 63, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 20;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 364.87 млн. руб.

# Лукашэнка падпісаў указ аб ІП: абавязвае мець дакументы на ўсе тавары

**Аляксандр Лукашэнка 16 мая падпісаў указ № 222 «Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі».**

Як паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы, дакумент абавязвае індывідуальных прадпрымальнікаў — плацельшчыкаў адзінага падатку з 1 ліпеня гэтага года мець дакументы, якія пацвярджаюць набыццё ўсіх тавараў для рэалізацыі, у тым ліку ўвезеных з краін Мытнага саюза.

Для гэтай катэгорыі прадстаўнікоў малога бізнесу да 1 сакавіка 2015 года ўстаноўлены пераходны перыяд, на працягу якога



прадпрымальнікі могуць распрадаваць набытыя ў краінах МС да 1 ліпеня гэтага года рэшткі тавараў без суправаджальных дакументаў. Пры гэтым указ абавязвае іх да 30 ліпеня гэтага года зарэгістраваць у падатковым органе вопіс рэшткаў тавараў без суправаджальных дакументаў — па кожным гандлёвым аб`екце і складзе. Зарэгістраваныя вопісы належыць захоўваць на гандлёвых аб`ектах, пакуль рэшткі не будуць распрададзеныя.

Акрамя гэтага, з 1 сакавіка 2015 года з указа № 285 «Аб некаторых мерах па рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці» будзе выключаны пункт, які цяпер дае прадпрымальнікам магчымасць рэалізоўваць тавары, увезеныя з краін МС без суправаджальных дакументаў, пры ўмове выплаты падатку на дададзены кошт у фіксаваных сумах.

«Індывідуальныя прадпрымальнікі, якія будуць мець дакументы на ўсе тавары для рэалізацыі, у адпаведнасці з указам будуць мець права перайсці на спрошчаную сістэму падаткаабкладання або з 1 ліпеня, або з 1 кастрычніка 2014 года», — гаворыцца ў дакуменце.

Указ таксама прадугледжвае пералік тавараў, якія фізічныя асобы маюць права рэалізоўваць без суправаджальных дакументаў.

Акрамя таго, дакумент дае ІП права наймаць да трох работнікаў незалежна ад родналасных сувязяў, а таксама здымае абмежаванні па колькасці гандлёвых і іншых аб`ектаў, якія прадпрымальнікі могуць выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці.

*БелаПАН.*

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»

## ПАНЯДЗЕЛАК, 26 траўня

### Беларусь 1

**06.00**,**07.20,08.15** Доброе утро, Беларусь!.
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00,00.55** Новости.
**07.05**,**08.05**Деловаяжизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.45** Наши.
**11.00**«Ошибкимолодости».
**12.10** «На-На: Кумиры из подворотни». Ч.2-я.
**13.15 «Тихая застава»**
**15.15**, **18.40** Новости региона.
**15.25** БеларусьLIFE.
**15.55«Люди в черном2»**
**17.35**Белорусск.времечко.
**19.20** Арена.
**19.40**, **00.40** «Зона Х».
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45** «Символ Победы».
**22.15 «Спасти или уничтожить»**.1-2с.
**00.25** Актуальн.интервью.
**01.15** День спорта.

### АНТ

**06.00**,**08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «В наше время».
**12.05** «Они и мы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Дело ваше...».
**13.55**«Модный приговор».
**15.00**«Наедине со всеми».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**16.55**«Давайпоженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет. «Охота на Радзивиллов». Фильм 1.
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Позиция».
**22.05 «Буч Кэссиди и Санденс Кид».**
**00.05-00.35** Ночн.новости.

### Беларусь 2

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Петровка, 38»** .
**10.10** Телебарометр.
**10.40 «Разведка»**
**11.40 «Ласточкино гнездо»**
**13.45** «Два с половиной повара. Открытая кухня»
**14.20 «Короли Догтауна»**
**16.15** «Перезагрузка».
**16.55** Приключенческий мультсериал **«Клуб Винкс. Школа волшебниц»**
**17.55 «Петровка, 38»** .
**18.55 «Реальные пацаны»**
**19.55 «Метод Фрейда»**
**21.05** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30 «Универ. Новая общага»**
**22.40 «Реальные пацаны»**
**23.40** «Перезагрузка».
**00.20 «Разведка»**
**01.10** «GBOB» в Беларуси.

### СТВ

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро».
**08.30** «Неделя».
**09.50** «Большой завтрак».
**10.30** «24 часа».
**10.40** Дневник «Дети - это ХороШоу».
**10.45** «Званый ужин».
**11.45** «Такова судьба».
**12.30** «Горячий лед».
**12.40** «Четыре свадьбы».
**13.30** «24 часа».
**13.50** Дневник «Дети - это ХороШоу».
**13.55** «Большой город».
**14.30** «Звездный ринг.
**15.30** «Не ври мне!».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Следаки».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** Дневник «Дети - это ХороШоу».
**18.35** «Мои прекрасные...».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Горячий лед».
**20.35** «Что с нами делает хоккей».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** Дневник «Дети - это ХороШоу».
**23.05** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**00.15 «Маршрут».**

### Белсат

**7:00** ПраСвет
**7:25** Зона «Свабоды»
**8:00** Форум (ток-шоу): Нашто нам Еўразвяз?
**8:50** Фітнес-шмітнес
**9:05** «Востраў Крым. Deja vu»
**9:40** «ГУЛаг» , дак. фільм: 4 серыя
**10:40** Эксперт
**11:10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**11:40** ПраСвет
**12:10** «Востраў Крым. Deja vu»
**12:40** Зона «Свабоды»
**13:20** Форум (ток-шоу): Нашто нам Еўразвяз?
**14:05** Фітнес-шмітнес
**14:25** «Мэлекі: водар анёла»
**15:45 «Гамлет»**
**17:55 «Горад з Мора»**:3 с
**18:45** «Казкі з-за акна»
**19:00** Навіны
**19:10** Агляд медыяў
**19:20** Гарачы каментар
**19:30** Навіны
**19:50** Dэвайс
**20:10** Агляд падзеяў культуры
**20:15** Гарачы каментар
**20:35** Асабісты капітал
**21:00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21:25** Размова дня
**21:45** Відзьмо-невідзьмо
**22:10 «Гамлет»**
**0:20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**2:00** Асабісты капітал
**2:20** Аб'ектыў
**2:45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**3:05** Відзьмо-невідзьмо

ПАНЯДЗЕЛАК, 26 траўня

